№ 3 (1566)
Чацвер , 9 студзеня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

### *Надвор'е*

Сёння ўдзень захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, пераважна ў паўночнай палавіне невялікі снег, на асобных участках дарогі галалёдзіца. Вецер паўднёва-заходні, 3—8 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску — -6...-8, Гродне — -7...-9, Мінску, Магілёве — -8...-10, Брэсце — -13...-15, Гомелі — -14...-16. У наступныя двое сутак воблачнае з праясненнямі надвор'е. 10-га месцамі снег, 11-га — пераважна без ападкаў. Вецер заходні і паўночна-заходні, 4—9 м/с. Тэмпература паветра ўначы 10-га — -20...-25, па поўдні пры праясненнях да -30, удзень -11...-16, месцамі да -21; у паўночных раёнах тэмпература паветра на працягу сутак -10...-15. 11-га ўначы — -22...-27; удзень -19...-24, на паўднёвым усходзе на працягу сутак -15...-20.



ЛІСТ ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА

# Кошт праўды

Дзякуй!

Вялікае дзякуй!

Гэтыя словы я хацеў сказаць Вам, шаноўныя чытачы, яшчэ ў першым нумары 2003 года. На жаль, некалькі дзён знаходзіўся за межамі Мінска, таму, прабачце, са спазненнем выказваю сваю шчырую ўдзячнасць за падтрымку "Народнай волі".

Дзякуй Вам, прыхільнікі вольнага слова!

Дзякуй Вам, сталыя і новыя падпісчыкі "Народнай волі"!

Прыемна, што і ў новым, 2003 годзе, мы засталіся разам. Тыраж газеты фактычна не знізіўся і застаўся самым высокім сярод недзяржаўных выданняў рэспубліканскага ўзроўню.

Не наша віна ў тым, што кошт месячнай індывідуальнай падпіскі дасягнуў 4600—5000 рублёў. Праўда не бывае таннай, а ва ўмовах нашай краіны за яе даводзіцца расплачвацца не толькі купюрамі, а, можна сказаць, і крывёю. За праўду журналісты пазбаўляюцца волі (асуджаны Мікола Маркевіч, Павел Мажэйка, Віктар Івашкевіч), нам пагражаюць забойствамі, ладзяць правакацыі, адным словам, не даюць магчымасці нармальна працаваць. Напрыканцы мінулага года я не вылазіў з пракуратур, судоў, іншых карных устаноў. Амаль тры месяцы адбіваўся ад наскокаў вяльможнага старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Леаніда Козіка. Спачатку ён спрабаваў задушыць "Народную волю" рукамі міністра інфармацыі Міхаіла Падгайнага. Калі па просьбе апошняга вопытныя спецыялісты зрабілі заключэнне, што няма падстаў для суровага пакарання газеты, спадар Козік, доўга не думаючы, накіроўвае скаргу ў пракуратуру. Не ў раённую, не ў гарадскую, а адразу ў Генеральную пракуратуру Рэспублікі Беларусь. І зноў рэдактару трэба было даказваць, што ён не вярблюд. Спадара-таварыша Козіка, хоць ён і мае высокае апякунства, ніякі закон не абараняе ад справядлівай вострай крытыкі, у тым ліку і "Народнай волі". І пракуратура, зыходзячы з неабвержных фактаў, пацвердзіла пазіцыю Міністэрства інфармацыі: на самай справе няма падстаў для закрыцця "Народнай волі" — адзінай у краіне штодзённай недзяржаўнай газеты. А што тычыцца нашай пазіцыі, то Леанід Козік і іншыя прафсаюзныя начальнікі, думаецца, яшчэ не раз будуць галоўнымі героямі публікацый "Народнай волі".

Не зайздросны лёс у галоўнага рэдактара. Але калі ведаеш, што газета, якую ты падпісваеш у друк, патрэбна людзям, краіне, часу, не боязна хадзіць па пракуратурах і судах. Не палохаюць і брыдотныя пагрозы як справа, так і злева.

Вы, шаноўныя сябры, напэўна, заўважылі, што ў апошні час "Народная воля" крытыкуе не толькі ўладу, але і апазіцыю. Крытыкуе зыходзячы з аднаго — Беларусь не можа быць заложніцай бездапаможнай палітыкі і неабдуманых дзеянняў як адных, так і другіх. Праўда коле вочы, і хтоніхто са спадароў дэмакратаў шпурляе ў бок рэдакцыі каменьчыкі, а то і накочвае вялізныя камяні. Не там барыкады ўзводзіце, хлопцы! Лепш ідзіце ў народ, будзіце масы, тлумачце ім, што Беларусь у небяспецы — заўтра замежныя гаспадары прыйдуць не толькі на "Нафтан" ці Гродзенскі азотна-тукавы камбінат, але і ва універсітэты, рэдакцыі газет, на Беларускае тэлебачанне. Дарэчы, на апошнім іх галасы, здаецца, ужо даўно чуваць. Ці ж можна назваць тэлебачанне нацыянальным, калі ў яго калідорах, на яго студыях духам беларушчыны і не пахне?

Узгадалася адна даўнішняя размова з Сяргеем Гайдукевічам — лідэрам Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі, неаднойчы прэтэндуючым як на пасаду прэзідэнта краіны, так і на парламенцкае крэсла. Сышліся на думцы: апазіцыя будзе аплёўвацца ўладай да таго часу, пакуль яна не атрымае эфірны час на тым жа тэлебачанні. Каб гэта стала рэальнасцю, трэба ісці на рашучыя дзеянні. Некаторыя з іх я прапанаваў Сяргею Васільевічу. Ён загарэўся: "Я сам прыму ўдзел у першы дзень...". А што было далей? Нічога. А з нічога нічога добрага не бывае. Сяргею Гайдукевічу даюць магчымасць сказаць пяць-шэсць слоў тады, калі ўладзе трэба выкарыстаць яго ў прапагандысцкіх мэтах. З такой нагоды раз-пораз мільгануць на экране і твары некаторых іншых "барацьбітоў за народнае шчасце". Што і казаць, льюць ваду на млын улады, якая прывяла людзей да жабрацтва, і лашчаць сябе яе ганебнымі падачкамі.

"Народная воля" не будзе падлабуньвацца да тых, хто, даруйце за катэгарычнасць, шмат балбоча і мала робіць. Восьмы год сённяшняя ўлада корміць амаль дзесяць мільёнаў беларусаў тым, чым кармілі савецкіх людзей розныя хрушчовы і брэжневы, якія бесперапынна паўтаралі, што камунізм не за гарамі, трэба толькі мацней зацягнуць папругі і чакаць, чакаць, чакаць... Восьмы год апазіцыя спрабуе змяніць сітуацыю, але безвынікова. Таму што шмат слоў і мала канкрэтнай чарнавой работы. Скажыце, спадары Вячорка і Севярынец, колькі актывістаў ГА "БНФ Адраджэнне" працуюць на канвеерах заводаў і фабрык, на будоўлях і ў калгасах, на кафедрах ВНУ і ў лабараторыях акадэмій? Не ведаеце? А як жа тады дайсці да народа? На тэлебачанне і радыё не пускаюць, у газетах не друкуюць, на заводах, фабрыках, будоўлях, у калгасах і саўгасах не ведаюць... Не, на талерачцы з сіняй аблямоўкай уладу не падносяць, а апазіцыя, якая пры дапамозе ўлады можа быць вечнай, гэта ўжо, прабачце, не апазіцыя, а нешта іншае.

Не думайце, даражэнькія апаненты, што я выказваю толькі свае меркаванні. Я — галоўны рэдактар і на маім рабочым стале — стос пісем, якія прыходзяць у рэдакцыю з самых розных куткоў Беларусі. "Народную волю" яны выпісваюць не дзеля макулатуры. Яны — людзі, адданыя Беларусі, яе нацыянальнаму адраджэнню. Прыслухаемся, спадарства, да галасоў знізу. "Народная воля", са свайго боку, абяцае і далей актыўна друкаваць лісты з рэдакцыйнай пошты.

І сам не заўважыў, як узяў высокую эмацыянальную ноту. Паверце, не хочацца нікога крыўдзіць, але і маўчаць нельга. Сэрца баліць адтаго, што, калі цывілізаваны свет упэўнена сустрэў XXI стагоддзе, наша шматпакутная Беларусь быццам ізгой на еўрапейскім абшары.

Балюча і крыўдна!

Крыўдна і балюча!

Што трымае? Сяброўства з вамі, шаноўныя прыхільнікі "Народнай волі". Упэўнены, кожны наш чытач — сапраўдны патрыёт Бацькаўшчыны.

І як тут не вярнуцца да тых шчырых слоў, якія шмат разоў паўтараліся на старонках "Народнай волі" падчас падпісной кампаніі:

Вы — за суверэнную Беларусь!

**Мы — таксама!**

Вы — за дэмакратыю!

**Мы — з Вамі!**

Вы — за перабудову эканомікі!

**Мы — падтрымліваем!**

Вы — за сацыяльную справядлівасць!

**Мы — дзвюма рукамі!**

Вы — на нацыянальнае адраджэнне!

**Мы — марым пра гэта!**

Светлых, радасных дзён Вам мілыя, добрыя людзі!

Жыве Беларусь!

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ,**
**заснавальнік і галоўны рэдактар газеты "Народная воля".**

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# Што здарылася з беларускім самалётам у небе Чэхіі?

Сродкі масавай інфармацыі паведамлялі ўжо аб здарэнні ў небе Чэхіі з беларускім самалётам Як-40. У час рэйса Мінск—Прага ў кабіне трэснула шкло. Спачатку ўнутранае, а пазней і вонкавае. На борце было больш як 20 чалавек.

Як нам паведамілі ў прэсслужбе Дзяржаўнага камітэта па авіяцыі Рэспублікі Беларусь, экіпаж самалёта дзейнічаў у такой сітуацыі дакладна па інструкцыі. Ён тэрмінова запрасіў калідор на больш нізкай вышыні. Герметызацыі кабіны не адбылося і — самалёт нармальна прызямліўся.

Расійскія СМІ ўдакладняюць, што трэшчыну на шкле кабіны заўважыў другі пілот. Да Прагі было яшчэ 240 кіламетраў. Экіпаж тэрмінова атрымаў згоду дыспетчара змяніць лётны калідор і знізіцца на мінімальную вышыню.

Па якой прычыне трэснула шкло? Адказу на такое пытанне пакуль няма. Гэта будзе высветлена пасля "разбору палётаў". Некаторыя спецыялісты мяркуюць, што яно, магчыма, было не высокай якасці. Вось перапады тэмпературы і маглі выклікаць такое здарэнне.

Як вядома, на сігнал SOS беларускага лайнера аператыўна адрэагавалі ваенныя паветраныя сілы Чэхіі. У неба тэрмінова падняліся два ваенныя самалёты. Чым яны маглі дапамагчы?

Мінскія спецыялісты, з якімі ўдалося звязацца, лічаць, што нічым істотна. Відаць, яны так дзейнічаюць у няштатных сітуацыях ці магчыма не зразумелі сігналу SOS. Прадстаўнік жа ваенных паветраных сіл Чэхіі Пётр Сыкора паведаміў расійскаму інфармацыйнаму агенцтву "Навіны" аб тым, што ваенныя лётчыкі хутка ўстанавілі візуальны кантакт з беларускім лайнерам і вялі яго да міжнароднага аэрапорта "Рузыне" ў Празе.

Пасажыры з Прагі вярнуліся ў Мінск самалётам тэхнічнай службы. У сталіцу Чэхіі прыбылі спецыялісты па замене шкла. Звычайна такая аперацыя займае дзень. На момант падрыхтоўкі гэтай публікацыі яшчэ не было вядома, заменена шкло ці не і калі вернецца Як-40 у Мінск.



*Як-40: гэтакі ж самы, але не той.*

Ці страшная аварыя — трэснутае шкло? Спецыялісты гавораць, што хоць гэта і пазаштатная сітуацыя, але яна падкантрольная экіпажу. Да таго ж Як-40 лятае не на вялікіх вышынях — 5000 метраў. Там тэмпература паветра прыкладна 30 градусаў. Гэты самалёт можа хутка зніжацца. Іншая рэч, калі б такое здарылася на Ту-154. Тады бяды было б не мінаваць. Бо яго траса праходзіць на вышыні 10 кіламетраў, дзе тэмпература 50 градусаў. Ды хуткасць Ту намнога большая, што, вядома, паўплывала б на разбурэнне шкла і магло б прывесці да жудаснай трагедыі.

**Алесь ДРАБЧУК.**

ПУЛЬС

## 184 кандыдаты ў дэпутаты

Паводле апошніх звестак Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў, у абласныя і Мінскі гарадскі Саветы вылучаны 184 кандыдаты ў дэпутаты.

Вылучэнне кандыдатаў прадоўжыцца да 20 студзеня. Самі ж выбары дэпутатаў мясцовых Саветаў пройдуць 2 сакавіка.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Узброіўся і сеў у цягнік

Супрацоўнікі патрульна-паставой службы Смаленскага лінейнага аддзела ўнутраных спраў затрымалі днямі ў цягніку "Масква — Бранск" грамадзяніна Беларусі 1967 года нараджэння.

Паводле інфармацыі Галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў на транспарце МУС Расіі, пры ім былі знойдзены і канфіскаваны аўтамат АКСУ-74 калібра 5,45 мм з двума магазінамі і 48 патронамі да яго, а таксама лазерны прыцэл і бронекамізэлька.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Рэканструкцыя цэнтра Мінска

У камітэце архітэктуры, горадабудаўніцтва і землеўпарадкавання Мінгарвыканкама падрыхтавана праграма жыллёвага будаўніцтва ў цэнтры горада.

Адначасова з новым будаўніцтвам будуць пашырацца і транспартныя шляхі. Знос старых дамоў і будаўніцтва новых кварталаў плануецца ў раёнах вуліц Багдановіча, Арлоўскай, Сталетава, праспекта Дзяржынскага (Грушаўка) і шэрагу іншых.

У гэтым годзе завершыцца рэканструкцыя парка Горкага, дзе з'явяцца новыя атракцыёны, гульнявыя комплексы і розныя "рэчы, якія ствараць казачны свет для дзяцей". У рамках рэалізацыі праграмы паркавага будаўніцтва будзе ўпарадкавана тэрыторыя ўздоўж ракі Свіслач з абодвух яе бакоў для стварэння новай зоны адпачынку.

Плануецца таксама правядзенне рэканструкцыі парка Чэлюскінцаў, раённых паркаў і сквераў. Акрамя таго, лыжа-ролерная траса ў раёне праспекта Машэрава сёлета будзе працягнута з 2,5 да 5 кіламетраў.

**Лавінія АРЭШКА.**

Грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя журналістаў" выказвае спачуванне дэпутату Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь Валерыю Фралову з нагоды страты блізкага чалавека — смерці **ЖОНКІ**.

ЗЕРКАЛО

*В декабре 2002 года НИСЭПИ провел очередной национальный опрос общественного мнения. Предлагаем вниманию читателей результаты ответов на вопросы, связанные с отношениями Беларуси и России.*

# ...Пока не стали врагами

Данные опроса показывают, что население весьма неоднозначно оценивает современные отношения Беларуси и России (табл. 1). Как можно заметить, число тех, кто дал этим отношениям положительную оценку лишь на 5,4% превышает число тех, кто дал отрицательную. И все это несмотря на многолетнюю интеграционную пропаганду и агитацию! Отсюда может следовать единственный вывод: нынешняя интеграция - не более чем источник дохода для не слишком патриотичных чиновников.

**Таблица 1. Распределение ответов на вопрос "Как бы Вы оценили нынешние отношения Беларуси и России?"**

| Вариант ответа* | % |
|---|---|
| Теплые | 42.3 |
| Нейтральные | 16.8 |
| Холодные | 36.9 |

* Здесь и далее позиции "Затруднился ответить" и "Нет ответа" исключены.

**Таблица 2. Распределение ответов на вопрос "Как бы Вы оценили нынешние отношения А. Лукашенко и В. Путина?"**

| Вариант ответа | % |
|---|---|
| Теплые | 34.1 |
| Нейтральные | 17.6 |
| Холодные | 42.8 |

Еще хуже население оценивает нынешние отношения первых лиц наших стран (табл. 2). Здесь общая оценка отношений вообще склоняется в негативную сторону: отрицательная оценка превышает положительную на 8.7%!

Таким образом, чем далее развивается интеграция Беларуси и России, тем более прохладными, по мнению населения, становятся отношения между союзниками и их руководством. Так может быть следует притормозить интеграцию, пока отношения не стали враждебными?

**НИСЭПИ.**

СМЕХАТУРА

## Как ректор Витебской государственной академии ветеринарной медицины Антон Ятусевич удостоился награды Сажи Умалатовой

Необычная информация поступила в редакцию "Народной воли": накануне Нового года ректор Витебской государственной академии ветеринарной медицины Антон Ятусевич издал официальный приказ о том, что он стал кавалером ордена Трудового Красного Знамени. Как известно, такой награды не существует уже более 10 лет. Как и не существует государства, в котором она была учреждена — Союза Советских Социалистических Республик.

Ректор Витебской государственной академии ветеринарной медицины А.Ятусевич, похоже, живет еще в том далеком времени. Он, видимо, и в самом деле считает, что Советский Союз существует до сих пор. Как и то, что по-прежнему действует Верховный Совет СССР и его президиум, пожизненным председателем которого называет себя небезызвестная Сажи Умалатова. Она-то и раздает направо и налево бывшие советские награды, не исключено — украденные из запасников или купленные на одном из московских рынков.

Со всего этого можно лишь посмеяться, если бы Антон Иванович Ятусевич являлся только членом какой-либо махровой партии, но не ректором государственного вуза. А может его позиции придерживаются в Министерстве образования и Администрации президента? Об этом можно будет судить по реакции из высоких кабинетов.

Впрочем, я позвонил в Витебск и связался с ректором академии А.Ятусевичем. Хотел "поздравить" его со столь "высокой наградой", но Антон Иванович от комментариев "Народной воле" категорически отказался.

**Валерий ЩУКИН.**

## Пракуратура Беларусі адмовіла Леаніду Козіку ва ўзбуджэнні крымінальнай справы ў адносінах да газеты «Народная воля»

Пракуратура Рэспублікі Беларусь адмовіла старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Леаніду Козіку ва ўзбуджэнні крымінальнай справы ў адносінах да недзяржаўнай газеты "Народная воля".

У звароце Козіка ў рэспубліканскую пракуратуру адзначалася, што артыкулы, апублікаваныя ў "Народнай волі" 20 жніўня і 14 верасня 2002 года, прадстаўлялі ў негатыўным выглядзе дзейнасць ФПБ. Гэтыя матэрыялы былі прысвечаны змяненням, што адбыліся ў палітыцы Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі пасля таго, як яе ўзначаліў былы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Леанід Козік.

У адказе пракуратуры, у прыватнасці, гаворыцца, што згодна з артыкулам 188 Крымінальнага кодэкса Беларусі "адказнасць за паклёп прадугледжана за распаўсюджванне загадзяілжывых звестак, якія зняслаўляюць іншую асобу, прыдумак", а па артыкуле 189 (абраза) адказнасць прадугледжана за "наўмыснае прыніжэнне гонару і годнасці асобы, выказанае ў непрывабнай форме". Ва ўзгаданых жа публікацыях газеты "фактаў, якія маглі быць растлумачаны як распаўсюджанне паклёпу альбо абразы, не існуе". Пры такіх абставінах падставы для ўзбуджэння крымінальнай справы адсутнічаюць.

**Наталля КУЛАГІНА, БелаПАН.**

# Нам объявили войну!

ЗАЯВЛЕНИЕ

Белорусское профсоюзное движение находится в углубляющемся кризисе. Процесс огосударствления Федерации профсоюзов Беларуси ускоряется. Пришедшая к власти в ФПБ команда Л. Козика, состоящая из бывших работников Администрации президента Республики Беларусь и силовых ведомств, с использованием интриг и административного давления проводит полномасштабную "чистку". Шельмованию и клевете подвергаются заслуженные и пользующиеся доверием трудящихся лидеры отраслевых профсоюзов. Набирают ход "реорганизации" — профсоюзы объединяют, сливают, перекраивают. Настала очередь альтернативных ФПБ профцентров.

Сегодня мишенью "похоронной команды" Л.Козика стал Белорусский конгресс демократических профсоюзов и входящие в него субъекты. Не имея возможности задавить нас традиционными методами — номенклатурными интригами и административным давлением, опасаясь вступать с нами в открытую дискуссию, люто ненавидя наш независимый статус, власть в лице Л.Козика решила применить традиционный "изящный" вариант расчистки белорусского политического и профсоюзного поля — просто изгнать конгресс, Свободный профсоюз Белорусский, Свободный профсоюз металлистов, Демократический профсоюз транспортников с занимаемых ими профсоюзных площадей.

Путем абсолютно незаконного взвинчивания в 10(!) раз арендной платы нас пытаются любой ценой выселить и тем самым лишить юридического адреса. Координируя свои действия с исполнительной властью, руководство ФПБ не делает тайны из того, что БКПД и входящие в него профсоюзы не найдут на территории Республики Беларусь возможности получить новый юридический адрес. В итоге по замыслам президентских политтехнологов, независимое профдвижение Беларуси окажется перед реальной угрозой ликвидации.

Нас пытаются загнать в подполье, навязать нам, профсоюзной организации, политические действия. НАМ ОБЪЯВИЛИ ВОЙНУ!

Мы принимаем этот вызов. С нами тысячи членов наших профсоюзов, работающих на стратегических для Республики Беларусь предприятиях. С нами наши права на долю в профсоюзном имуществе, созданном поколениями членов профсоюзов. С нами поддержка и солидарность мирового профсоюзного движения. Мы имеем внутренние возможности для организации немедленного отпора, чтобы сохранить в неприкосновенности оставшийся единственный в стране "островок свободы".

Без тени сомнения мы заявляем: победа будет за нами!

| | |
|---|---|
| **Президент БКДП** | **А.Ярошук** |
| **Председатель СПБ** | **Г.Быков** |
| **И.О. Председателя НПБ** | **Н.Зимин** |
| **Председатель СПМ** | **В.Трощий** |
| **Председатель ДПТ** | **В.Макарчук** |

**P.S.** *Как стало известно редакции, президент Белорусского конгресса демократических профсоюзов А.Ярошук направил письмо на имя Генерального прокурора Республики Беларусь В.Шеймана по поводу незаконных действий Л.Козика. Одновременно принято Обращение к профсоюзным организациям, входящим в БКДП.*

ЗАКУЛИСЬЕ

# «Момент истины» для губернатора



*Владимир Савченко.*

**Фото IREX/ProMedia.**

*Очень уж неблагодарное дело писать на тему, связанную с кадровой политикой. Особенно в условиях белорусской действительности, когда любой государственный чиновник не может чувствовать себя в безопасности и, порой, не знает, из-за чего навлек на себя гнев "всевышнего". Тем более проблематично обосновывать версии о возможных отставках в отношении представителей исполнительной власти, которые, образно говоря, попали в разряд опальных.*

По информации источников, близких к правительственным кругам, стало известно о нарастании недовольства в Администрации президента председателем Гродненского облисполкома Владимиром Савченко. Причин тому может быть несколько.

Как известно, не так давно Комитет государственного контроля проводил широкомасштабную проверку предприятий аграрного сектора, массовые приписки были выявлены в колхозах и совхозах Минской области.

Речь идет о завышении урожайности и, соответственно, уменьшении в отчетах засеваемых площадей, увеличению "на бумаге" привесов скота и надоев от коров и т.д. Поговаривают, что окончательное разбирательство с самим губернатором Минской области г-ном Домашкевичем еще впереди.

Но дело в том, что аналогичные приписки выявлялись и в Гродненской области, которая по всем показателям сельского хозяйства лидировала в Беларуси. Справедливости ради следует отметить, что очковтирательство в западном регионе Беларуси носило не столь массовый характер. Но, тем не менее, могли зародить недовольство у чиновников из Администрации президента или Совета министров.

Не исключено, что Савченко стал неугодным в связи со скандалом вокруг священника-раскольника Спасюка, который, выйдя из состава православной церкви, без санкции властей начал строить храм в г.п.Берестовица. Его активно поддерживала местная паства автокефальной церкви. Для ознакомления с ситуацией в Берестовицу выезжал 3-й советник американского посольства Ian Terner, который был задержан сотрудниками милиции при въезде в поселок. Там же был арестован и находящийся в командировке по заданию "Народной воли" Валерий Щукин. Эта скандальная история широко освещалась на страницах независимых СМИ.

Возможно, предстоящая опала губернатора связана с неспособностью областных властей взять под контроль местных предпринимателей, которые наиболее активно (после их коллег из Минска) принимали участие в 100-дневной забастовке.

Но все же одной из основных версий того, почему Савченко попал в опалу, связывают, как ни странно, с депутатом Палаты представителей Национального собрания Валерием Фроловым. Он, как известно, баллотировался и успешно победил на парламентских выборах именно в Гродненской области и пользуется там большим авторитетом не только у рядовых избирателей, но и чиновников областного масштаба. Теперь же, по сути дела, депутат Фролов олицетворяет в парламенте оппозицию. Его многочисленные выступления, законодательные инициативы и особенно главная роль по созданию депутатской группы "Республика" вызвали гневную реакцию в Администрации президента.

Руководство Гродненского исполнительного комитета предпринимало попытки вернуть депутата в русло президентской политики, для чего с ним неоднократно проводились "воспитательные" беседы. Но тщетно. Генерал остался верен себе и занимаемой им позиции.

**Сергей АНИСЬКО.**

АСОБЫ

# Фізік з душою лірыка

**Гэты чалавек сёння больш вядомы ў Беларусі як палітык — адзін з цяперашніх лідэраў ГА «БНФ Адраджэньне». І не ўсе ведаюць, што па сваёй асноўнай спецыяльнасці Юры Хадыка — фізік, а ў душы праз усё жыццё застаецца непапраўным лірыкам.**

*У фізіцы ў яго нямала заслуг: ён разам з калегамі з Інстытута фізікі АН Беларусі спрычыніўся да стварэння шырока вядомай Сістэмы ранняга касмічнага папярэджання (якая і цяпер дзейнічае ў Расіі).*

*— Калі з'явілася зброя для вядзення так званых касмічных войнаў — узнікла неабходнасць у сістэме кантролю за пускам ракет, — тлумачыць Юры Віктаравіч. — Так і стала развівацца сістэма касмічнага назірання за ракетнымі нападамі. Над ёй працавалі многія вучоныя Савецкага Саюза. Мы ж у Мінску грунтоўна займаліся тэорыяй выпраменьвання ракетных факелаў.*

*А разам з вырашэннем складаных задач па аэрадынаміцы, газавай дынаміцы, даследаваннямі ў сферы так званых неўраўнаважаных цячэнняў (да якіх, дарэчы, адносіцца і полымя) вучоны займаецца гісторыяй беларускага мастацтва. Каштоўныя экспанаты і матэрыялы шэрагу экспедыцый па Беларусі, адным з асноўных арганізатараў якіх ён быў, леглі ў аснову вядомага цяпер у краіне і за мяжой Музея старажытнабеларускай культуры Нацыянальнай Акадэміі навук.*

*Наш аповед — менавіта пра гэтыя і іншыя малавядомыя бакі жыцця фізіка з душою лірыка.*

## «Я прымаю вас...»

У свой час у рэдакцыі часопіса "Беларусь" з'явілася ідэя расказаць пра гэтага чалавека, не асабліва педалюючы палітычны бок ягонага жыцця. Бо і тады, і сёння, на жаль, палітыкі розных плыняў не могуць пахваліцца тым, што іх ідэі кансалідуюць размаітае беларускае насельніцтва ў моцны народ. А часопіс "Беларусь" ставіць перад сабой менавіта такую задачу: дапамагаць розным нашым суайчыннікам разумець адзін аднаго, шукаць згоду нават там, дзе выядае вочы дым нянавісці.

І хіба дужэе народ, калі занадта фанабэрацца адзін перад адным палітычныя пеўні?

Карацей, пайшлі мы на інтэрв'ю да апазіцыянера Хадыкі. З некаторай асцярогай, але пагадзіўся ён прыняць журналістаў дзяржвыдання на сваёй рабоце, у лабараторыі. Спачатку здзівіла, што спусціўся Юры Віктаравіч нас сустракаць да паставога ў... пакаёвых тапачках. Потым зразумелі: яму так і сапраўды лацвей, бо праводзіць жа ў сценах Інстытута фізікі большую частку актыўнага жыцця. І канторку самаробную ацанілі, стоячы за якой вучоны працуе — зручна!

— Я прымаю вас, зыходзячы з лепшых дапушчэнняў. Думаю, што супрацоўнікі "Беларусі" — не рэакцыянеры, — такімі былі першыя словы гаспадара, афарбаваныя лёгкай іроніяй, на пачатку размовы. Потым ён, частуючы нас кавай, згадаў, што першае ў сваім жыцці інтэрв'ю даваў, калі музей адкрыў.

— І музей — гэта таксама вашая справа?

— О, гэта, можа, мая найбольшая, найгалоўная справа, акрамя фізікі.

Каб зразумець, што адкуль пачалося, мы папрасілі яго пачаць з каранёў.

## Карані

Нарадзіўся ён у Мінску перад вайной у 1938 годзе. Ягоны бацька, інжынер па адукацыі, прывёз сабе жонку з Данецкай вобласці, дзе праходзіў студэнцкую практыку. Але яна не была чыстай украінкай: яе бацькі, раней заможныя сяляне з Курскай вобласці, збеглі ў свой час ад рэпрэсій калектывізацыі на Украіну.

Так што ў крыві і свядомасці Юры Хадыкі бурліць цэлы славянскі інтэрнацыянал! Што тычыцца прозвішча Хадыка, то яно ў продкаў было некалі адабрана і ягоны беларускі род доўгі час карыстаўся мянушкай Ляхі — "сведчанне таго, што мой прадзед быў удзельнікам паўстання Кастуся Каліноўскага". Прозвішча Хадыка пасля доўгіх хадайніцтваў роду вярнулі толькі ў 1905 годзе. А на "Ходыко" бацьку ягонага перарабілі ў 1918 годзе, калі забрылі ў Чырвоную Армію. Хлопец з Сенненскага раёна быў тэлефаністам падчас Кранштацкага мяцяжу, "які пакінуў у ім цяжкае ўражанне", і ў 1922 годзе (тады ішло добраахвотнае скарачэнне арміі) пайшоў з войска. Выкладаў гісторыю, вучыўся ў БПІ, а падчас Вялікай Айчыннай, хоць і меў "броню", пайшоў ваяваць: камандаваў сапёрнай ротай. Атрымаў цяжкае раненне (наступіў на міну ў разведцы), доўга, аж да канца вайны, лячыўся ў шпіталях — "можа, таму й выжыў".

Вайну малы Юры "пераседзеў" у бабы з дзедам на Украіне, у Краснаармейску — туды яго і малодшую сястру маці адвезла на лета. Толькі ў маі 1945-га вярнуліся ў Мінск. Ён памятае і жахі акупацыі, і як вызвалялі Украіну — "усё з часу Сталінградскай бітвы помню", і як падчас адступлення немцы спалілі іх дом.

Тады ж, у вайну, як жартам кажа Юры Віктаравіч, ён упершыню і пачаў займацца ваеннымі праблемамі: неяк, яшчэ дашкалятамі, падрывалі яны вялікі склад-штабель снарадаў. Абышлося без ахвяр...

## Праз чарнільныя плямы — у акадэмію!

З вялікай сыноўскай удзячнасцю расказвае Юры Віктаравіч пра бацьку. Аказваецца, гэта ад яго передалася, на ўсё жыццё запала ў сэрца сына-фізіка любоў да мастацтва.

Памятае, як толькі дзеці прыехалі ў Мінск пасля вайны, бацька сеў пазаймацца з імі і ўпершыню паказаў, як можна перамалёўваць карціны па клетачках. Юру гэта вельмі ўзрушыла, здзівіла. Крыху пазней, у 46-м ці 47-м годзе, яны з бацькам трапілі ў Маскву (там былі родзічы па маці). Запомнілася не толькі неразбітая Масква (а Мінск ляжаў у руінах), тралейбус, але і... Траццякоўка! Бацька павёў яго туды, разам разглядвалі карціны, і ён шмат расказваў пра мастакоў.

Маляваннем Юры пачаў займацца ў Мінску, у гуртку пры Доме піянераў. "І маляваў я добра, і вучыўся добра", — з гордасцю кажа Хадыка. Хоць, праўда, першай яго адзнакай была "двойка": у стала-"казла" (на козлах), за які яго пасадзілі ў 60-й Чыгуначнай школе, не было адной нагі, ён хістануўся, чарнільніца абярнулася на сшытак — "і пад плямаю стаяла чырвоная "двойка".

Цікава, што з чарнільнымі плямамі яму давялося ваяваць і абітурыентам. Закончыўшы мінскую школу з залатым медалём, ён рызыкнуў падацца ў аўтарытэтны сярод яго тагачаснага фізіка-матэматычнага акружэння Маскоўскі фізіка-тэхнічны інстытут, што ў Даўгапрудным. І трэба ж такому здарыцца: на першым пісьмовым экзамене па матэматыцы заліў адзіны свой касцюм чарнілам! "Пад стрэсам" схапіў "тройкі" і па пісьмовай, і па вуснай матэматыцы, потым справіўся з эмоцыямі — здаў абедзве фізікі "на выдатна", атрымаў паўпрахадны бал.

— А на субяседаванні — як жа я скажу, што заліў касцюм? — шчыра ўсміхаецца вучоны.

Вось так, не выдаўшы камісіі "тайну" сваёй няўдачы, нікога не просячы аб спагадзе, сарамлівы, але горды нашчадак паплечнікаў Каліноўскага і пакінуў Маскву. Затое з поспехам вучыўся ў Мінску, быў Ленінскім стыпендыятам, а пасля заканчэння універсітэта па прапанове акадэміка Сцяпанава пайшоў працаваць у Акадэмію навук.

## Закрытая тэматыка

Інстытут фізікі, дзе ўрэшце апынуўся наш візаві, быў багаты на "вялікіх людзей, сапраўдных настаўнікаў". У лабараторыі Ельяшэвіча, пад кіраўніцтвам Сяргея Анісімава ("агонь-хлопец — пасля Ленінградскага фізтэха, адукацыя выдатная, халерык, пра яго шматгранны талент чуткі хадзілі") і зрабіў у 1961 годзе сваю першую працу "Выбух у порыстых асяроддзях" малады навуковец Юры Хадыка. Потым былі складаныя закрытыя даследаванні, звязаныя з развіццём авіяцыі, ракетабудаваннем, абароннымі праграмамі...

— Не сакрэт ужо сёння, што наш інстытут заўсёды працаваў на вайсковую тэматыку, — кажа Юры Віктаравіч. — А закрытая тэматыка — гэта і жорсткія патрабаванні да маральнай атмасферы ўнутры калектыву, і да падбору супрацоўнікаў. Гэта і абмежаванні ў сваіх навуковых прэтэнзіях — мы, напрыклад, не маглі друкавацца ў адкрытым друку, не дазвалялася мець сувязі з замежнымі вучонымі, нават знаёмствы. У выніку ж сталася так, што ў мяне сёння ёсць музей — каштоўнасць матэрыяльная, і ёсць лабараторыя, якой кірую, — каштоўнасць духоўная.

"Касмічныя войны" пачаліся яшчэ да Рэйгана, амаль адразу ж пасля першых запускаў ракет у 50-х гадах. Каб не прапусціць раптоўны ракетны ўдар патэнцыяльнага праціўніка, з 1962 года ў ЗША (а ў хуткім часе і ў СССР) пачала развівацца сістэма касмічнага назірання за ракетнымі пускамі. Зразумела, разлік рабіўся на аўтаматыку, на грандыёзныя аптычныя сістэмы, патрэбны былі адпаведныя тэлескопы, каб весці са спадарожнікаў бесперапыннае назіранне. А паколькі з Зямлі пуск ракеты бачыцца зусім не так, як з космасу, то і стваралася тэорыя выпраменьвання ракетных факелаў. Іх усебакова даследавалі, бо пастаўленая задача ўтварала замкнёнае кола: каб "зловіць" момант запуску пры дапамозе касмічнага тэлескопа, — трэба мець адпаведны тэлескоп, а каб яго пабудаваць, — трэба ведаць, што і як ён "зловіць".

За першыя 7 гадоў даследаванняў мінскія вучоныя апярэдзілі іншых на ўсёй савецкай тэрыторыі, сталі галоўнымі ў тэорыі. Сам Юры Хадыка яшчэ ў 1965 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю, займаўся вышэйазначанымі праблемамі да 1991 года, а сама лабараторыя оптыкі неўраўнаважаных асяродкаў і стала яго "каштоўнасцю духоўнай".

Лабараторыя (раней другая па велічыні ў інстытуце) працавала, аднак, не толькі на "абаронку". Напрыклад, ужо ў 1973 годзе мінская праграма разліку цеплавой прыкметнасці марскіх суднаў стала нарматыўным дакументам. Працавалі тады вучоныя надзвычай рэнтабельна.

— Мы зарабілі ў той час каля 20 мільёнаў долараў, — з гордасцю кажа вучоны. — Нашы сродкі ўкладзены ў СКТБ і іншыя навуковыя аб'екты. Так што сённяшняе жыццё сваё мы зарабілі цалкам — і ў прамым, і ў пераносным сэнсе.

## Каштоўнасць матэрыяльная

Тыя, хто ў свой час усяляк адбіваўся ад грамадскіх даручэнняў, у тым ліку і камсамольскіх, магчыма, размінуліся са сваім лёсам. Што да Юры Хадыкі, то ён праявіў тут вялікую актыўнасць, пра што аніколькі не шкадуе.

— Раней была такая завядзёнка, — з усмешкай згадвае вучоны. — Як толькі хто падрыхтаваў дысертацыю — яго тут жа загружаюць па камсамольскай лініі — "для актыўнасці", каб было што напісаць у характарыстыцы. І мне давялося гэта прайсці, хоць імкнуўся ад камсамола адысці. Але ў 26 гадоў — зноў абралі ў актыў. Працаваць стандартна не хацеў, таму ўзяўся за культмасавую работу. Але з чаго пачаць?

Пачаў камсамольскі актывіст з мастацкага музея. Ад згаданага раней Сяргея Анісімава ведаў пра цікавых мастакоў-імпрэсіяністаў — "а мы ж анічога пра іх не ведалі". Таму і шукаў Юры ў музеі чалавека, каб пра тых імпрэсіяністаў даходліва фізікам расказаў. Чым выклікаў у мастацтвазнаўцаў шок: па-першае, — фізікі, па-другое, — не сацыялістычны рэалізм, а французскі імпрэсіянізм... Не-не-не... Перакідвалі хлопца з аддзела ў аддзел, але ён упарты, да дырэктара дайшоў — і, урэшце, знайшлася ў беларускім аддзеле Элеанора Іванаўна Вецер. Яна і пагадзілася знаёміць фізікаў з мастацтвам.

— На лекцыі да яе прыходзіла больш як палова супрацоўнікаў нашага інстытута, яна аказалася выдатнейшым лектарам, — расказвае Юры Віктаравіч. — Праз дыяпраектар дэманстраваліся слайды, народ быў у захапленні і ўвосень 64-га, і ўзімку 65-га. А вясной па яе прапанове фізікі паехалі ў Вільню — знаёміцца з архітэктурай.

Далей — болей. Двойчы ў год згаладалыя па культурных кантактах людзі з закрытых лабараторый вандравалі разам з няўрымслівай жанчынай па прозвішчы Вецер па розных гарадах. Працяглыя экспедыцыі былі ў Пскоў, Ноўгарад, Ленінград, Маскву, Падмаскоўе, Кіеў, Львоў. Ездзілі ў складчыну, скарыстоўвалі час майскіх і кастрычніцкіх свят — набіралася па 3—4 дні. Бралі аўтобус, а часам і два, кожны з двума шафёрамі (якія па чарзе рулілі), гід папярэдне сазваньвалася з калегамі ў іншых гарадах і дамаўлялася з імі наконт культурнай праграмы і начлегу (у недарагіх гасцініцах, інтэрнатах).

А ў 1968 годзе энтузіясты, агледзеўшы ўжо землі іншыя, улетку паехалі і па роднай Беларусі — па Брэстчыне, Гродзеншчыне. Знаёміліся з ацалелай архітэктурай і "астаткамі мастацтва", як кажа Хадыка. А некаторыя помнікі нашай культуры ў тую пару літаральна пад нагамі валяліся.

— У 1968 годзе мы прывезлі ў Мастацкі музей групу найвыдатнейшых скульптур з Міра, — успамінае Хадыка. — Думаеце, гэта мела нейкі грамадскі рэзананс? Нам нават дзякуй ніхто не сказаў...

І ў тым жа 68-м — так супала! — Саўмін СССР прыняў пастанову аб выданні грунтоўнага 200-томнага Збору помнікаў гісторыі і культуры народаў СССР. З іх 7 тамоў адводзілася на Беларусь: па адным на вобласць і асобны на горад Мінск. Весці гэтую справу было даручана акадэміі навук Беларусі.

— І вось тады высветлілася, што ў акадэміі няма ніводнага прафесійна падрыхтаванага чалавека па гісторыі айчыннага мастацтва. Прынята было рашэнне стварыць сектар Збору помнікаў. Там апынулася і Элеанора Вецер. Трэба было рыхтаваць людзей, кадры для вялізнай работы. Але як? Мы прынялі такое рашэнне — у 1969 годзе стварылі першую адраджэнскую суполку, якая называлася "Семінар па вывучэнні старажытнабеларускага мастацтва".

Суполка, як і належала па тым часе, была афіцыйна зарэгістраванай у парткаме АН Беларусі, атрымалі дазвол на тое, каб збірацца пасля работы. Вопыт арганізацыі працы ўжо быў, і адраджэнцы збіраліся штотыднёва, самастойна вывучалі паралельна тры курсы: гісторыю Беларусі, сусветную гісторыю мастацтва і тэхналогію апісання (экфрасіс). Склалі нават слоўнік, неабходны для апісанняў помнікаў — большасць жа будучых даследчыкаў напаўзабытай культуры не ведалі, як апісаць, напрыклад, выяву Хрыста ці святога Міколы.

— Такім чынам, саматужна, мы за год падрыхтавалі кадры і атрымалі дазвол на экспедыцыю летам 1970 года па Брэсцкай вобласці, — расказвае Хадыка. — Што цікава: тры экспедыцыі складаліся з супрацоўнікаў сектара Збору, а адна была добраахвотніцкай, якой нават транспарту не далі. Апошняя даследавала Драгічынскі і Іванаўскі раёны, прычым не толькі выканала ўсе работы — мы прывезлі ў Мінск 64 унікальныя абразы і скульптуры, падабраныя ў закрытых цэрквах. Паўстала пытанне: што з гэтым багаццем рабіць? З вялікімі цяжкасцямі праз прэзідэнта Акадэміі навук выбілі пару пакояў, каб скласці каштоўнасці. Элеанору Вецер прызначылі захавальніцай. Праз тры гады ў нас ужо была калекцыя з больш чым 500 твораў мастацтва, мы нават абсталявалі міні-музей.

— А хто з вашых калег удзельнічаў у гэтай рабоце?

— Многія. У прыватнасці, сённяшні доктар фізіка-матэматычных навук Валеры Філіпаў, ужо нябожчык калега Казімір Адзярыха, Ірына Быцева — усе з нашага інстытута. З іншых — Аляксандр Ярашэвіч: ён цяпер галоўны захавальнік музея, пакінуў свой Інстытут ядзернай энергетыкі. Дарэчы, буйнейшы знаўца беларускай скульптуры, займаўся гэтым і да нас саматужна, потым мы разам ездзілі ў экспедыцыі. Мы неяк падлічылі, што каля 120 чалавек да гэтай справы далучылася — мы ўсіх запрасілі, калі музей адкрываўся. Цяпер ужо шмат каго і няма, а справа добрая засталася. Рабілі ж мы ўсё на грамадскіх пачатках, без аплаты, усе экспедыцыі праходзілі толькі ў час нашых асабістых водпускаў. І транспарт выдзялялі нам толькі пазней, часам самы просты грузавік.

На наша пытанне, ці сустракаўся ў сваім жыцці вучоны з такой з'явай, як цуд, Юры Віктаравіч усміхнуўся:

— Акрамя таго цуду, пра які я вам расказаў, — больш не. Уявіце, як усё цудоўным чынам узаемазвязана: маё камсамольскае даручэнне, пошукі лектара, лекцыі, экспедыцыі, стварэнне Музея старажытнабеларускага мастацтва. Не было б гэтага шэрагу — не было б і музея, гэта дакладна. Але сёння музей ёсць — і гэта цуд!

## Мы яшчэ сустрэнемся!

Толькі частка цікавай размовы з Юры Хадыкам змясцілася ў наш артыкул, які быў падрыхтаваны для часопіса "Беларусь" і змешчаны пад аптымістычна-сімвалічным загалоўкам "Радуйцеся!" у №9 за 1999 год. Не ўсё мы расказалі і ў артыкуле, які вы трымаеце перад сабой. У прыватнасці, чаму Юры Віктаравіч свядома абраў для сябе уніяцкую веру, як яму ўдаецца сумяшчаць навуку ў галаве і веру ў сэрцы. Пра тое, калі будзе ў чытачоў "Народнай волі" жаданне, мы яшчэ раскажам.

**Валянціна і Іван ЖДАНОВІЧЫ,**
**супрацоўнікі часопіса "Беларусь".**
**Фота Івана ЖДАНОВІЧА.**

ПРОБЛЕМА

## «Спичечная» экономия

Внук-третьеклассник попросился в Полоцк на зимние каникулы. По действующим правилам студентам и школьникам на время каникул полагается 50-процентная скидка на билеты. Однако и в Минске, и в Полоцке на десятилетнего отрока пришлось приобретать билет за полную стоимость. Потому как в паспорте у меня ни дети, ни внуки не записаны. Более того, касса требует справку со школы. Но какая полоцкая школа даст мне справку на столичного ученика? А, главное, для чего сей документ?

Ребенок и школьник — понятия идентичные. Внешний вид большинства подростков сомнений в их принадлежности к школьному сословию не вызывает. В том числе и мой внук, который вырос пока лишь до моих подмышек. Тогда зачем, скажите, справка со школы? Ведь вопрос с поездкой детей далеко не всегда планируется заранее. Зачастую, как в ситуации с моим внуком, решение возникает спонтанно. А на получение в любом учреждении справки, в школе в том числе, нужно время. То директора нет, то машинистка отлучилась, то еще какая-либо заморочка. Особенно во время каникул.

Беларусь — не туристическая Мекка, которую наводняют толпы детей со всей планеты. Может быть, железная дорога и получит некий доход за проезд детей из соседнего государства по полной стоимости. Но вряд ли этот мизер перевесит потери общества на печатание в школах справок. Вот уж воистину: на водке пропиваем, а на спичках экономим. Дешевле, на мой взгляд, будет выдать школьникам ученические билеты. Как студентам.

А посему предлагаю заинтересованным ведомствам внести изменения в инструкцию: вышеупомянутые справки отменить. Поскольку в нашем государстве действует всеобщее образование с шестилетнего возраста, которое длится 12 лет, то всех лиц до 18-летнего возраста правомерно считать школьниками.

Стоит ли ради нескольких сотен беспризорников, школу не посещающих, создавать проблемы остальным сотням тысяч детей?

**Валерий ЩУКИН.**

ГДЕ ЭТО ВИДАНО...

## Воры из «Охраны»

То, что в Мяделе более трех лет орудует банда, знали все. Постоянные угоны автомобилей по ночам, а затем и средь бела дня надоели всем. Народ обращался в милицию, там потерпевших успокаивали — ищем, ждите!

"Неуловимые" похитители увеличивали свой "послужной" список, а в РОВДе проводились совещания офицеров милиции, на которых под покровом секретности разрабатывались оперативно-розыскные мероприятия по поимке банды. Толпы милиционеров ходили друг за другом по городку, гоняли на автомобилях по району, отдавали оперативную информацию в ЦЕНТР...

Сначала (с подачи милиции) угоны "валили" на литовцев, — мол, достать не можем. Но в последнее время по городу прошел слушок, что похищают авто сами милиционеры, но вот почему не возвращают, хотя бы с целью повышения "раскрываемости", обыватели понять не могли.

Развязка наступила, как в "мыльном сериале". Один из местных милиционеров (как потом выяснилось, сослуживец "неуловимых" похитителей) не найдя своей "тачки" там, где ее оставил, поднатужился и вспомнил, что последними, кого он видел во дворе своего дома, были коллеги на милицейской машине. Где искать свой автомобиль — для него секрета не было. Шкурные интересы участкового оказались выше корпоративных. Так эта история вылезла как шило из милицейского мешка.

Интересная деталь. Видя через щель, как коллеги разбирают его "коня" в гараже одного из сотрудников вневедомственной охраны, участковый побоялся сунуться в гараж — знал, с кем имеет дело. И только после окончания "дежурства", когда ночной дозор сдал оружие, банда милиционеров была арестована.

В настоящее время три сотрудника отделения "Охрана" Мядельского РОВДа арестованы (Янель, Божелко, Ровдо), возбуждено уголовное дело, ведется следствие. В спешном порядке отдел очищает свои "доблестные" ряды от тех, кто прямо или косвенно способствовал банде, увольняет сотрудников из органов милиции, делает зачистку. Не поздно ли, господа офицеры?!

**Г.МЕТЕЛИЦА, Д.МОРОЗ.**

*г.Мядель.*

РЭГІЁН

## Без малака, без працы

З-за недахопу сыравіны на скарочаны рэжым працы ў чатыры дні на тыдні вымушаны перайсці калектыў ААТ "Пастаўскі малочны завод". Усе працаўнікі па графіку павінны "адгуляць" двухтыднёвыя неаплачваемыя водпускі, а 15 завадчан звольняць з працы па скарачэнні штатаў.

Летам на завод штодзень дастаўлялі да 150 тон малака, але цяпер закуп зменшыўся ў 7 разоў.

## Каўбаса не па кішэні

З новымі і непрыемнымі для сябе тэндэнцыямі сутыкнуліся сёлета работнікі каўбаснага цэха Докшыцкага райспажыўсаюза. Асабліва ў першым паўгоддзі паступала схуднелая жывёла, а мяса 2-й катэгорыі не падыходзіла для вырабу якасных і смачных каўбас.

Але, калі нават удавалася ўсё зрабіць як трэба, гэты прадукт харчавання ў гандлёвых кропках раскупляецца дрэнна. За першыя тры кварталы тут рэалізавалі толькі 74 тоны каўбасных вырабаў, што амаль напалову меней за ўзровень мінулага года.

**Уладзімір ШЫК.**

ПОЗИЦИЯ

# «Художественный свист» Таисы Бондарь

**"Не надо нам слова гнилого и праздного, погружающего в самодовольную дремоту и наполняющего сердце приятными мечтами, а нужно слово свежее и гордое, заставляющее сердце кипеть отвагою гражданина, увлекающее к деятельности широкой и самобытной".** Так видел писательское предназначение Николай Добролюбов — известный русский литературный критик, публицист, революционный демократ. Думаю, именно такой видит миссию художника и гражданина народный поэт Беларуси Нил Сымонович Гилевич. Его всегда свежее, смелое поэтическое слово звучит мощно, гулко, тревожно-призывно, как "колокол на башне вечевой". Такое слово заставляет человека остановиться в суматохе бренных забот, задуматься о высоком и вечном. О времени и о себе. Своей судьбе и будущем Родины...

Но есть люди, которые пуще огня боятся такого слова. Испугало оно, бросило в шок и Таисию Бондарь. Прочитав в "Народной воле" очередную поэтическую подборку Н.Гилевича, она истерично-панически запричитала на страницах оч-ч-чень "памяркоўнай" и "талерантнай" "Звязды", будто во время кораблекрушения: "Полундра! Спасайся, кто как может! Не читайте! Не слушайте "ссівелага гарапашніка", потому как стихи его — **"атрута"**...".

Отдам должное огнедышащему "памфлету": написано хлестко, броско. Даже по-библейски величаво и пафосно. Но... совершенно НЕ ПО СУЩЕСТВУ. Г-жа Бондарь ничтоже сумняшеся в поиске виновного во вселенских бедах и прегрешениях человечества без особых нравственных терзаний нашла... Гилевича.

Но какое отношение имеет ее манерный, клерикально-схоластический пассаж к Нилу Сымоновичу? Да в сущности — НИ-КА-КО-ГО! Чрезмерно возбужденная дама накинулась на Мастера, Поэта и Гражданина, словно он — еретик, богоотступник какой-то. **Лишь за то, что, говоря о глубокой внутренней боли, употребил образное выражение "крыж пакуты".**

То, что это — художественный образ, литературное сравнение, увы, недоступно пониманию писательницы. Только человек безнадежно невежественный или же с нездоровым воображением может заподозрить поэта в том, будто он буквально, фактически претендует на роль и место Иисуса Христа... Какая чушь, прости Господи. Когда современный русский поэт Николай Добронравов написал: "Ты — моя мелодия, я — твой преданный Орфей", то разве это означает, что он присваивает себе лавры и заслуги мифологического Орфея, который чудесным пением очаровывал богов и людей, укрощал дикие силы природы?

Неискушенному слуху и уму может показаться, что стихи уважаемого мэтра нередко **кричат**. Но это не "гвалт", а исповедь настоящего Художника и Гражданина. Ибо **истинный, настоящий Художник всегда, по определению, находится в оппозиции к любой власти**. Особенно — ПОЭТ. Когда-то молодой, еще начинающий поэт Дмитрий Мережковский осмелился показать самому Достоевскому стихи, отобранные для своего первого сборника. Ознакомившись с рукописью, корифей покачал головой: **"Чтобы научиться хорошо писать, надо много страдать..."**.

Когда Александр Герцен услышал о том, что литераторов — вольнодумствующих журналистов и публицистов — называют "лекарями общества", он запротестовал: **"Мы не врачи. Мы — боль"**. Как сильно и образно сказано, не правда ли? Именно эта непреходящая, неизбывная, неизлечимая **боль** за все аномалии, пороки, несправедливости, извращения окружающего мира, из-за чего страдают в первую очередь обездоленные, униженные и оскорбленные, безвременно свела в могилу великих Пушкина, Лермонтова, украинского Кобзаря Тараса Шевченко, написавшего в своем знаменитом "Заповіті":

*Як умру, то поховайте*
*Мене у могилі,*
*Серед степу широкого —*
*На Вкраїні милій...*
*Поховайте та вставайте,*
*Кайдани порвіте*
*І вражою злою кров'ю*
*Волю окропіте.*

Надеюсь, перевод не нужен?

...У нас, в Беларуси, стало дурной традицией: как только власть в очередной раз опростоволосится, тут же самые "без лести преданные" борзописцы, оттирая локтями друг друга, косяками лезут "на подиум" — к микрофонам и телекамерам, на страницы холуйствующих газет. И начинают "разоблачать, изобличать, клеймить, пригвождать к позорному столбу" инакомыслящих, инаковидящих, инакопишущих и инакодышащих. Чтобы там, наверху, непременно заметили, при случае не обошли вельможной благодарностью, должностью, хорошим окладом, званием, квартирой... Злорадно, чуть ли не с пеной у рта набрасываются они на всех, кто думает иначе. Разве тот же Костян не требовал "санкций" ко всевозможным "критиканам" и "возмутителям спокойствия"? Вот и Т.Бондарь — туда же (ее сияющий лик впервые увидел 6 декабря в выпуске "Панарамы", где она что-то банально-бессвязное вещала о своем предназначении на новом поприще во главе известного "холдинга". Но кто же теперь из серьезных, нормальных людей будет читать его тщательно просеянную, ангажированную продукцию?).

Замечательную подборку стихов Нила Гилевича без особых затей и нравственных терзаний великая литначальница обозвала **"атрутай"**. И просто панически причитает: **"не чытайце!", "не слухайце!". А кого же читать и слушать прикажете, милейшая?** Может быть, Вас? Или подобных Вам гениев пера? А ведь настоящих поэтов — Гилевича, Буравкина, Бородулина, Законникова, Панизьника и других Вы не напечатаете.

На БТ, в его сетке вещания в течение уже восьми лет не находится и пяти минут для страстного, вдохновенного слова всенародно любимого писателя и поэта Нила Гилевича. Это же — нонсенс! И белорусы (как и Союз писателей) — ничего: терпят, молчат...

Хоть убейте меня — не пойму: где в стихах Н.Гилевича эта злополучная **"атрута"**? Из-за чего Вы, Т.Бондарь, как говорил один хороший поэт, так напылили вокруг, даже толком дороги не видели? На Голгофу поэт Гилевич восходит не для того, чтобы покрасоваться лишний раз на публике, **а для того только, чтобы, "распяты горам народа і болем", докричаться до этого народа и до тех, кто довел страну до беды.**

...Вся эта история с **"атрутай"**, размноженная "Звяздой", напомнила мне потрясающие строки Александра Блока:

*Лишь воссияет лик Свободы, —*
*Как тут же вспыхнет лик Змеи...*

Вот мы и увидели этот лик во всей "красе".

Писательница завершает свое произведение в "Звяздзе", как ей, видимо, кажется, неотразимым пассажем: "Колькі можна на вачах ва ўсяго грамадства разыгрываць адзін і той жа фарс: кідацца грудзьмі на амбразуру, з якой не страляюць?".

Опять же: подводит писательницу отсутствие образного мышления и простой женской наблюдательности. Так уж и **"не страляюць"**? Если по сравнению, например, со Сталинградской битвой, — то да: теперь у нас тишь да гладь да божья благодать. А если глубже вдуматься в порядок вещей и поразмышлять, то **еще как "страляюць"**! Спросите у отцов и матерей, жен и детей, братьев и сестер исчезнувших ЛУЧШИХ СЫНОВ БЕЛАРУСИ — генерала Юрия Захаренко, политика Виктора Гончара, предпринимателя Анатолия Красовского, тележурналиста Дмитрия Завадского. Они исчезли... МОЖЕТ ИСЧЕЗНУТЬ САМА БЕЛАРУСЬ. А Вы призываете спать спокойно.

***

Низкий поклон Вам, уважаемый Нил Сымонович! За Ваше мудрое, бесстрашное, высокое СЛОВО. Многая Вам лета — на радость народу Беларуси, на неиссякаемый прибыток национальной литературе и культуре. Не стоит обращать внимания на разного рода завывания придворных борзописцев. Работа у них такая... И если г-жа Бондарь опять выступит на страницах оч-ч-чень "честной" газеты, то это будет все тот же "художественный свист"...

**Александр ОЛЬХОВОЙ,**
**лауреат премии**
**имени Анатолия Майсени.**

